№№187–188
(3726–3727)
30 лістапада 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб КОЛАС*

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АБРАКАДАБРА

## Шынамантажнікі зарабляюць больш, чым дактары і міліцыянеры?

*Сталічная служба занятасці прапануе беспрацоўным атрымаць прафесію шынамантажніка. І зарабляць каля 1000 долараў у месяц.*

Мінская гарадская служба занятасці ўпершыню арганізавала ў сталіцы курсы па падрыхтоўцы слесараў па рамонце аўтамабіляў, манціроўшчыкаў шын і шынна-пнеўматычных муфт.

Як паведаміла агенцтву “Мінск-Навіны” намеснік начальніка аддзела прафесійнага навучання і прафесійнай арыентацыі ўпраўлення занятасці насельніцтва камітэта па працы і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама **Ларыса Волкава**, парк аўтатранспарту ў горадзе няўхільна расце, павялічваецца і попыт на спецыялістаў у частцы тэхнічнага абслугоўвання аўто.

Прафесія шынамантажніка карыстаецца ўстойлівым попытам. Спецыялістам прапануюць зарплату 4—8 мільёнаў рублёў.




**ДЛЯ ПАРАЎНАННЯ**

За мінулы месяц доктар-афтальмолаг адной са сталічных паліклінік атрымаў на рукі 2 мільёны 700 тысяч — разам з прэміяй. Грузчыку ў гіпермаркеце “Бігз” прапануюць да 3.400.000 рублёў. Участковага інспектара міліцыі ў Савецкі РАУС Мінска запрашаюць на заробак ад 4 мільёнаў беларускіх рублёў.

**Паліна ПЛАТОНАВА.**

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

## Герой Беларуси может получить еще одну должность

*Не исключено, что новым главой Совета по развитию предпринимательства станет Петр Прокопович.*

*Эту информацию агентству “Бизнес-новости” подтвердили несколько источников в бизнес-кругах.*

По словам одного из собеседников, согласно последней версии подготовленного проекта указа о преобразовании совета, в новый состав органа войдут 23 человека. Председателем планируется назначить помощника президента по экономическим вопросам **Петра Прокоповича**.

Он также сообщил, что кандидатура генерального директора ООО “Трайпл” **Юрия Чижа**, которая обсуждалась год назад в качестве наиболее вероятной на пост председателя совета, сегодня не рассматривается. На данный момент в состав Совета по развитию предпринимательства входят 29 человек. Председателем совета является глава Национального статистического комитета Беларуси **Владимир Зиновский**.

Напомним, что Александр Лукашенко выказал недовольство работой текущего состава Совета по развитию предпринимательства в мае 2011 года: *“Я очень серьезно думаю, как модернизировать совет по предпринимательству, который работает из рук вон плохо”*.

В мае 2012 года Лукашенко вернулся к вопросу реформирования органа. *“Я им недоволен, поручил его сформировать более существенным, но пока у кого-то руки не доходят. Тут и сами предприниматели виноваты: у них одно — пролоббировать свои проекты. Так быть не должно. Коль ты член совета, ты должен за предпринимательство радеть, начиная от общих нормативно-правовых вопросов и заканчивая конкретными проектами”*, — заявлял президент на встрече с активом Белорусского союза ветеранов войны в Афганистане.

Петр Прокопович, Герой Беларуси, занимал должность председателя правления Национального банка Республики Беларусь в 1998—2011 годах. Больше всего Петр Прокопович запомнился белорусам фразой, произнесенной 17 марта 2011 года, которую транслировали практически все информационные агентства Беларуси: *“Пока я являюсь председателем правления Нацбанка, никакой разовой одномоментной девальвации никогда не будет. У нас достаточно опыта, который мы накопили за 15 лет, и этот опыт говорит о том, что это плохое решение для белорусов. Раз плохое решение, мы его выполнять не будем. Даже девальвации в 5% у нас никогда не будет”.* Уже через несколько месяцев белорусские рубли обесценились по отношению к доллару практически в три раза.

БЛІЦ

*Ні для кога не сакрэт: на сённяшні дзень роля партый, грамадскіх аб’яднанняў і рухаў у палітычным, эканамічным, культурным жыцці краіны невялікая. Таму ўзнікае пытанне да лідараў:*

## *Што трэба зрабіць вашай партыі і апазіцыі ў цэлым, каб уплыў на грамадства быў больш значным?*

**Антаніна КАВАЛЁВА, намеснік старшыні Аб’яднанай грамадзянскай партыі:**

— Трэба быць паслядоўнымі. Калі мы ставім перад сабой нейкія мэты, то трэба ісці да іх пакрокава, паслядоўна, не адступаць ад сваіх абяцанняў і імкнуцца іх увесь час выконваць. Канешне, ёсць і шмат іншых фактараў. У нас цэлая стратэгія прынята ў партыі. Калі мы даб’ёмся таго, каб стратэгія і прыняты стратэгічны план былі выкананы, то я ўпэўнена, што мы станем самай уплывовай палітычнай сілай у Беларусі.

**Аляксей ЕЛІСЕЕЎ, член бюро ЦК Партыі левых “Справядлівы свет”:**

— Нашай партыі і ўсім апазіцыйным сілам трэба працаваць. Для такой працы нават у тых няпростых умовах, у якіх даводзіцца існаваць, ёсць шэраг легальных магчымасцяў. А мы праводзім зашмат сходаў, выпрацоўваем нейкія сумесныя платформы замест таго, каб выходзіць на вуліцу, да людзей. Напрыклад, у перыяд перадвыбарных кампаній альбо мерапрыемстваў, якія ладзяць палітычныя партыі ці рухі самых розных апазіцыйных сіл.

**Алесь ЧАХОЛЬСКІ, адказны сакратар Кансерватыўна-Хрысціянскай партыі — БНФ:**

— Трэба больш займацца пашырэннем інфармацыйнай і асветніцкай працы. Для гэтага больш актыўна выкарыстоўваць інтэрнэт, распаўсюджваць інфармацыйныя ўлёткі. Трэба ствараць групы падтрымкі. Усё гэта трэба рабіць, каб беларусы зразумелі, што толькі яны самі з’яўляюцца гаспадарамі на сваёй зямлі і ім не трэба спадзявацца ні на Усход, ні на Захад. Я перакананы, што гэтая праца дасць плён.

**Алесь АРАСТОВІЧ, сябра аргкамітэта па стварэнні Сацыял-дэмакратычнай партыі “Народная Грамада”:**

— Трэба рабіць сваю працу заўсёды добра, але каб усе пры гэтым ведалі, што ты апазіцыянер. Маўляў, бачыце, апазіцыя, але ён сваю працу робіць лепш, чым тыя, хто цяпер пры ўладзе. Ну, вось прыклад: столькі гадоў не вырашаецца пытанне парковак, у двары немагчыма заехаць і паставіць машыну. Улада дзейнічае па прынцыпе ўнутранай акупацыі, істотныя пытанні, праблемы штодзённага жыцця проста ігнаруюцца. Вось калі апазіцыя давядзе да ладу хаця б пытанне парковак, то гэта і падвысіць да яе давер і ўвагу з боку грамадства.

**Вадзім САРАНЧУКОЎ, старшыня Гродзенскай філіі Партыі БНФ:**

— Апазіцыя павінна нарэшце спыніць змаганне паміж сваімі партыямі і рухамі, не губляць на гэта свае сілы. Трэба аб’яднаць сумесныя намаганні, каб разам ісці да пастаўленых мэтаў. Тады і грамадства стане ўспрымаць апазіцыю як моцную сілу, якая можа акрэслена паказаць яму, што трэба рабіць у той ці іншы момант.

**Любоў ЛУНЁВА.**

СКАНДАЛ

*Аляксандр ЯФІМАЎ:*

## «Мы ў чаканні з Надзеяй...»

*“Народная Воля” высвятляла, ці могуць праз восем гадоў забраць бронзавы медаль у беларускай спартсменкі Ірыны Ятчанка, а Аляксандр Яфімаў — трэнер Надзеі Астапчук, якую абвінавацілі ва ўжыванні допінгу, даў нашаму карэспандэнту эксклюзіўнае інтэрв’ю.*

Складваецца ўражанне, што беларускі спорт ніколі не пазбавіцца ад допінгавых скандалаў. Днямі стала вядома, што допінг-проба, якую ўзялі падчас Алімпійскіх гульняў 2004 года ў Афінах у бронзавага прызёра ў кіданні дыска Ірыны Ятчанка, дала станоўчы вынік пры ініцыянаванай Міжнародным алімпійскім камітэтам пераправерцы пробаў. У гэтую ж кампанію парушальнікаў патрапілі украінскі і расійскія спартсмены. Паведамляецца, што ва ўсіх знайшлі забаронены анабалічны стэроід аксандралон. Цікава, што атлетаў абвінавачваюць праз восем гадоў пасля таго, як узялі пробы! У такім выпадку ці могуць сёння забраць медаль у Ятчанка? І ці павінна яна вярнуць прызавыя за бронзавы медаль, які атрымала ў свой час?

— Пробы і на самай справе захоўваюцца восем гадоў, і МАК па сваім жаданні можа іх пераправерыць у любы час, — распавядае былы дырэктар Нацыянальнага антыдопінгавага агенцтва **Мікалай КРУЧЫНСКІ**. — А чаму прэпарат раней не знайшлі? Зараз жа новыя методыкі. Іншая справа, што не было яшчэ такіх прэцэдэнтаў, каб аж праз восем гадоў перапраўвяралі. Зараз спартсменцы будзе вельмі цяжка даказаць сваю невінаватасць.



### КАМЕНТАРЫЙ ПА СПРАВЕ

— Інфармацыя пра Ірыну Ятчанка абнародавана, далей, як я разумею, будзе ісці падрыхтоўка нейкіх дакументаў з боку спартсменкі, якая патлумачыць сітуацыю, — кажа прэс-сакратар Міністэрства спорту і турызму **Уладзімір НЕСЦЯРОВІЧ.** —У спартсмена ж такама застаецца права на абарону. І ўжо затым выносіцца канчатковы вердыкт. Нават Надзея Астапчук не адразу вярнула медаль, а тэрмін яе дыскваліфікацыі да гэтага часу не вызначаны.

**— Ці могуць праз восем гадоў у спартсменкі забраць медаль, калі інфармацыя пацвердзіцца?**

— Безумоўна.

**— А як у такіх выпадках быць з атрыманымі ёю ў свой час прэміяльнымі за медаль на Гульнях?**

— Тут нічога сказаць не магу, гэта ўсё трэба ўдакладняць...

## *Што з Надзеяй Астапчук?*

Пакуль будуць разбірацца па справе васьмігадовай даўніны, усе ў чаканні таго, які прысуд вынесуць беларускай штурхальніцы ядра Надзеі Астапчук, якая на Алімпіядзе-2012 у Лондане заваявала залаты медаль, але затым яго забралі. МАК паведаміў пра станоўчую допінг-пробу Астапчук. Пасля з’явілася інфармацыя, што допінг у ежу спартсменкі падсыпаў яе трэнер **Аляксандр ЯФІМАЎ**, які напісаў пісьмовае прызнанне. Сёння Аляксандр Мікалаевіч каментуе сітуацыю з Ятчанка і загадкава адказвае на пытанні аб “справе Астапчук”.

— Пра чарговы допінгавы скандал даведаўся ад вас, — распавядае ён. — Не хочацца ні за чым сачыць...

**— Спартсменку абвінавачваюць ва ўжыванні допінгу праз восем гадоў!**

— Ведаеце, у даўніну таксама сахой аралі, а зараз — трактарам з дзесяццю плугамі. Тое самае і ў медыцыне. У 2004 годзе былі адны методыкі праверкі, а ў 2012-м — зусім іншыя. Ды і спіс забароненых прэпаратаў стаў значна большы. Раней у дабаўках былі такія прэпараты, якія не шукаліся і не лавіліся... А зараз у тых харчовых дабаўках, якія ўжывалі раней, знаходзяць забароненыя стэроіды.



**— Аляксандр Мікалаевіч, а ці падтрымліваеце вы сувязь з Надзеяй Астапчук?**

— Безумоўна! Мы сустракаліся, зараз чакаем, якое будзе вынесена канчатковае рашэнне. Тры месяцы цягнуць гуму, а чаго цягнуць? Яны ж нікому нічога не кажуць.

**— Якое, на ваш погляд, будзе рашэнне?**

— Цяжка сказаць. Усе дакументы скіраваны на тое, каб быў мінімальны тэрмін дыскваліфікацыі.

**— Дарэчы, мала хто верыць, што насамрэч вы падсыпалі допінг у ежу спартсменкі.**

— І правільна робяць. Але аб гэтым калі-небудзь потым... Зараз нам застаецца толькі спадзявацца на лепшае.

**Алесь СІВЫ.**

СУСВЕТНАЯ ПРАБЛЕМА

# Калі старасць — не ў радасць,

*альбо Дзе і як выжываюць пенсіянеры...*

Першыя пенсіі (пенсіёны) з’явіліся ў манархічнай Еўропе яшчэ ў ХІХ стагоддзі. Асабістым указам караля яны прызначаліся набліжаным асобам — военачальнікам, ахоўнікам, прыдворным мастакам і вучоным, міністрам — за асаблівыя заслугі перад дынастыяй. Вядомая справа: тыя прыдворныя і без “пенсіёну” маглі дажыць у сытасці, але які кароль — ды без падпор?!

І ўсё выглядала прыстойненька аж да пары, пакуль не сталі ўводзіць дзяржаўныя пенсіі для ўсіх работных і простых людзей. Камусьці недаплацілі, камусьці пераплацілі... І пачаліся спрэчкі, бунты, рознагалосіца... Доўжацца яны і абрастаюць — нібы снежны камяк у сырое надвор’е — “каростаю” законапалажэнняў, указаў і розных іншых дзяржаўных папер і па сёння. Робіцца ўсё, каб змікшыраваць незадаволенасць адных і напоўніцу задаволіць да ўлады набліжаных: абы чэрнь маўчала ды “падпорка” не скавытала. Ва ўсялякім разе з моманту, калі “жалезны канцлер” Бісмарк у 1889 годзе ўпершыню ўвёў дзяржаўныя пенсіі, у свеце мала што памянялася: улады ўвесь час спрабуюць “сэканоміць” на пенсіянерах, а пенсіянеры ламаюць галовы, як ім пры гэтым выжыць...

Бісмарк выплачваў “пенсіён” сваім падданым, калі тыя дажывалі да 70-ці, і гэта пры тым, што сярэдняя працягласць жыцця не перавышала... 45 год. Астатнія манархі (не столькі дынастычныя, колькі самапрызначаныя) былі і застаюцца яшчэ больш скваплівымі ў адносінах да простага люду. Набліжаным — па максімуме, басоце — абы ногі не працягнулі...




Карацей, у свеце не было і няма ідэальнай сістэмы пенсіённага забеспячэння. Так, прынамсі, лічаць і аўтарытэтныя ва ўсім свеце эксперты акадэміі Форэкс, біржавыя маклеры Masterforex-V. Больш за тое, яны ўпэўнены, што пенсіённая праблема настолькі “закіпела”, што пагражае стаць адной з самых вострых на планеце. І той “кіпень” можа выплюхнуцца на вуліцы: у Грэцыі і Іспаніі, “разагрэтай” эканамічным крызісам, тое і назіраем. Паводле думкі экспертаў Форэкса, улады і надалей будуць адсоўваць пенсіённы ўзрост, а народ — патрабаваць павышэння памеру пенсій. У краінах з развітай дэмакратыяй склалася праверaная гадамі сістэма недзяржаўных пенсіённых фондаў, у якія людзі без вялікай рызыкі робяць свае штомесячныя адлічэнні. А вось у краінах СНД першыя такія фонды зрабіліся... фінансавымі пірамідамі. Народ аблапошылі. Цяпер невядома, калі вернецца — і ці ўвогуле вернецца — давер да тых фондаў. Песімісты сцвярджаюць: адзіны спосаб забяспечыць годную старасць — зарабляць і адкладваць грошы ўсё жыццё, не спадзеючыся ні на якую дзяржаву, ні на якія фонды... Але хто з цяперашніх улад спрабуе сэканоміць на пенсіянерах? Чаму такое адбываецца? З-за чаго пенсіённыя сістэмы даюць збой?.. І, нарэшце, як зарабіць паспалітаму чалавеку свой “пенсіён”, які б дазволіў годна пражыць астатак гадоў?..

### «Салідарнасць» не ўратуе...

Новыя пакаленні ўжо фізічна не ў стане падтрымліваць “салідарнасць пакаленняў” і выплачваць пенсію сваім папярэднікам. Чаму? Галоўная прычына — рэзкае павелічэнне колькасці пенсіянераў пры адначасовым скарачэнні працаздольнага насельніцтва. Рост працягласці жыцця, зніжэнне нараджальнасці — гэта якраз з той “оперы”, дадайце сюды спецыфіку асобных краін, такіх, да прыкладу, як Беларусь, дзе колькасць насельніцтва за два апошнія дзесяцігоддзі зменшылася прыкладна на 750 тысяч чалавек...

Увогуле колькасць пенсіянераў у развітых краінах даўно перавысіла колькасць дзяцей. Да 2050 года такія суадносіны чакаюць усю планету: прычыны ва ўсіх розныя, а вынік адзін, і ён непазбежна змушае ўсё большую частку валавога ўнутранага прадукту траціць на падтрымку пенсіянераў. У 1935 годзе (з моманту ўвядзення дзяржаўнай пенсіённай сістэмы ў ЗША) такая мера абыходзілася краіне ў 0,2% ВУП, а зараз, калі пенсіянеры складаюць 10% ад усяго насельніцтва, яна вылятае ў 6%. Італія аплачвае 14% ВУП, Турцыя — 7,8%... Карацей, праблема з кожным годам абвастраецца. Многія краіны ўвогуле дэманструюць не прырост, а скарачэнне колькасці працаздольных людзей, пераважна з-за мізэрнай нараджальнасці: Германія (-0,06%), Чэхія (-0,11%), Японія (- 0,24%), Расія (-0,47%), Украіна (-0,062%), Балгарыя (-0,77%) і г.д. Парадокс, але факт: дзякуючы высокаму ўзроўню жыцця еўрапейцы сталі жыць даўжэй, але пры гэтым няўхільна скарачаецца колькасць працуючых. У недалёкай перспектыве грамадства не здолее забяспечыць еўрапейскіх пенсіянераў звыклымі, дастаткова высокімі пенсіямі — для нас папросту завоблачнымі. Сёння, напрыклад, **мінімальная** пенсія датчаніна складае 600 еўра ў месяц, а фіна — амаль 800... Але гэта сёння, а як будзе заўтра — у іх і ў нас?..

*(Заканчэнне на 2-й стр.)*

ГАЗЕТА—ЧЫТАЧЫ



ПАД ГРАДУСАМ

## *Рыхтуйцеся да маразоў!*

*З прыходам каляндарнай зімы сітуацыя ў атмасферы паступова пачне настройвацца на зімовы лад, гаворыць сіноптык **Дзмітрый Рабаў**. І літаральна заўтра пачнецца паступовае паніжэнне тэмпературы паветра.*

***1 снежня*** месцамі кароткачасовы снег, мокры снег, галалёд, на дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра на працягу сутак -3...-4°С.

***2—4 снежня*** месцамі кароткачасовы снег. На дарогах галалёдзіца. Тэмпература паветра: ***2 снежня*** ноччу 0...-6°С, днём — -3...-2°С; ***3—4 снежня*** ўначы -2...-7°С, пры праясненнях -8...-12°С, днём 0...-6°С.

СУСВЕТНАЯ ПРАБЛЕМА

# Калі старасць — не ўрадасць,

## альбо Дзе і як выжываюць пенсіянеры...

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*



Старасць можа быць шчаслівай.

### Адны думаюць, другія дзейнічаюць...

Урады еўрапейскіх краін ушчыльную падышлі да рэфармавання пенсіённай сістэмы. Існуючая зараз у краінах ЕС сістэма пенсіённага забеспячэння прадугледжвае пенсіённыя выплаты праз розныя афіцыйныя структуры, фонды якіх фарміруюцца на аснове абавязковых адлічэнняў працуючых і працадаўцаў. Калі ў Расійскай Думе толькі пачынаюць задумвацца пра пенсіённую рэформу, а ў Беларусі пытанне ўвогуле замарожана, то ў краінах Еўрасаюза ўжо мяняюць узрост выхаду на пенсію. І адным гэтым, зразумела, не абмяжоўваюцца... Напрыклад, у Італіі павялічваюць узрост працуючага да 65 гадоў, у Швецыі — да 70. У Фінляндыі для тых, каму больш за 55 і 65 гадоў, распрацаваны план поўнай занятасці. Цікава, што план прадугледжвае меры, якія гарантуюць грамадзянам гэтай узроставай катэгорыі рабочыя месцы на розных прадпрыемствах. Урад Германіі таксама лічыць, што варта больш актыўна скарыстоўваць вопыт пажылых людзей, у тым ліку і на рынку працы. І гэта натуральна, паколькі многія з пенсіянераў валодаюць спецыяльнымі ведамі і шматгадовым прафесійным вопытам. Ужо сёння ў Германіі працуе толькі 45% насельніцтва ва ўзросце 55—65 гадоў. У Даніі і Швецыі колькасць насельніцтва ў такім узросце, якое працуе ў розных сферах эканомікі, складае адпаведна 60% і 70%.

Пенсіённая сістэма ў краінах Еўрасаюза прадугледжвае і змену самой метадалогіі выплаты пенсій. Тым, хто працуе, апроч традыцыйнай сістэмы "накаплення шляхам падзелу" прапаноўваецца ўносіць паі ў спецыяльныя фонды. У ЗША такія фонды існуюць здаўна, праўда, яны рызыкоўныя для пайшчыкаў, асабліва падчас фінансавых крызісаў. Таму, верагодна, амерыканцы асноўную стаўку робяць на дзяржаўныя пенсіі, якія фарміруюцца за кошт абавязковага падатку ў дзяржаўны пенсіённы фонд. Сярэдні амерыканец можа заўсёды разлічваць на дзяржаўную пенсію ў памеры 39% ад даходаў, якія былі да моманту выхаду на заслужаны адпачынак. Але калі прыплюсаваць накоплены пенсіённы ўклад па месцы працы, індывідуальны пенсіённы ўклад у банку ці ў паявым фондзе, то гэтая лічба ўзрасце да 51%. У абсалютных лічбах мінімальны памер пенсіі для адзінокага амерыканца складае 900 долараў, і 1500 — для пенсіянера з жонкай...

З некалькіх частак складаецца і пенсіённая сістэма Вялікабрытаніі: базавая дзяржаўная пенсія, дадатковая пенсія і зберажэнні насельніцтва. Брытанскі грамадзянін штотыднёва плаціць пенсіённыя ўзносы з 16 (!) гадоў, а дзяржава гарантуе, што па дасягненні пенсіённага ўзросту ён атрымае пенсію, якая складзе 20% сярэдняга заробку. Атрымліваецца недзе 110—120 еўра на тыдзень, але сума пераглядаецца штогод з улікам інфляцыі. Тут паспяхова дзейнічаюць і прыватныя пенсіённыя фонды, іх паслугамі карыстаюцца блізу 5 мільёнаў англічан з 33 мільёнаў працаздольнага насельніцтва.

Увогуле ў свеце існуюць тры асноўныя віды пенсіённых сістэм:

— **індывідуальна-накапляльная** — калі пенсіённыя падаткі (узносы) выплачваюцца самімі работнікамі ці працадаўцамі;

— **размеркавальная на аснове пенсіённых падаткаў**, арганізавана на прынцыпе "салідарнасці пакаленняў" — пенсіённыя падаткі не адкладваюцца, а выплачваюцца пенсіянерам;

— **размеркавальная на аснове агульных падатковых збораў**, без спецыяльных пенсіённых падаткаў — звычайна выкарыстоўваецца для выплат малазабяспечаным, сацыяльна не абароненым, інвалідам і г.д.

У кожнай краіне выкарыстоўваецца камбінаваная сістэма, і яна ўключае дзве альбо нават усе тры віды пенсіённых сістэм. Але ў эканамічна развітых краінах (з-за кепскай дэмаграфічнай сітуацыі) размеркавальныя сістэмы прыйшлі ў заняпад — усё меней выкарыстоўваюцца. Чаму? На кожнага пенсіянера прыпадае ўсё меней працуючых грамадзян... У 1950 годзе ў ЗША на аднаго пенсіянера прыпадала 8 працаздольных, а ў 1920 годзе такіх будзе ўдвая меней (1 да 4). Таму задоўга да часу "Х" амерыканцы пачалі ўкараняць накапляльныя фонды. Высокія пенсіі ў Даніі, Фінляндыі, Францыі, ЗША ды іншых высокаразвітых краінах сталіся такімі, дзякуючы якраз пенсіённым накапляльным сістэмам. Дарэчы, імі карыстаюцца ўжо каля 40% насельніцтва планеты. Прычым у ЗША і Еўропе гэты паказчык у два разы вышэй — каля 80%, а ў Азіі — у два разы ніжэй. Як фарміруюцца дзякуючы накапляльным сістэмам (ці іх адсутнасці) дзяржаўныя пенсіі ў розных краінах?..

**ЗША.** Звычайна пенсія складае ў сярэднім каля 1200 долараў (50% ад заробку). Наёмныя работнікі плацяць узносы ў пенсіённы фонд у памеры 7,5% (столькі ж даплачвае працадаўца). Ненаёмныя работнікі — бізнесмены, адвакаты ды іншыя — самі выплачваюць за сябе поўную суму —15%.

**Японія.** Пенсія складаецца з дзвюх частак — базавай (гарантавана выплачваецца ўсім па дасягненні пенсіённага ўзросту) і працоўнай (фарміруецца з узносаў, якія работнікі і працадаўцы ўносяць пароўну). Сярэдняя пенсія ў выніку дасягае 60% заробку.

**Германія.** Працадаўца і работнік пароўну адлічваюць узносы ў Пенсіённы фонд — усяго 20,3% ад заробку. Памер пенсіі дасягае 70% ад заработнай платы.

**Францыя.** Французы адлічваюць у Пенсіённы фонд 16,35% ад заробку (работнікі і працадаўцы — папалам, асобы свабодных прафесій — цалкам самастойна). Памер пенсіі — 50% ад сярэдняй заработнай платы за апошнія 11 гадоў працоўнай кар'еры.

**Кітай.** Паняцце "пенсія" (роўна як і самі пенсіі) толькі пачынае ўваходзіць у свядомасць жыхароў краіны, вяскоўцы наогул не могуць разлічваць на атрыманне дзяржаўнай пенсіі...

**Украіна.** Пенсіённы "салідарны" цяжар ляжыць цалкам на дзяржбюджэце (каля 15% ад ВУП — больш, чым у любой іншай постсавецкай краіне). Па дзеючай сістэме ў Пенсіённы фонд выплачваецца 34% ад заробку (больш за ўсіх у свеце), пры гэтым 32% — працадаўцам і толькі 2% — самім работнікам. Недзяржаўныя пенсіённыя фонды пакуль не атрымалі шырокага распаўсюджвання.

### Пуцінская «загагуліна»...

У Расіі перспектыва выкарыстання недзяржаўных пенсіённых фондаў — на раздарожжы. Увогуле нашую суседку многія адносяць да самых нестабільных краін свету ў сферы пенсіённай сістэмы. Трэці раз за дзясятак гадоў там мяняюць "правілы гульні", спрабуючы знайсці надзейную крыніцу для гарантаванай выплаты пенсій. Самае дзіўнае, што, нягледзячы на ўсю тамтэйшую пенсіённую каламуць, становішча расійскіх пенсіянераў з кожным годам... паляпшаецца. Тут і напраўду: што немцу дрэнь, рускаму ні хрэнь... Толькі за перадкрызісную пяцігодку народу паднялі выплаты практычна ўдвая. Выратоўвае — па ўсім — нафтагазавы бюджэт. Праўда, для тых, хто яшчэ працуе, пенсіённае будучае не выглядае ружовым. Хутчэй — незразумелым... З аднаго боку, заяўлена, што на працягу 2013 года пенсіі ў Расіі павысяцца ў сярэднім на 30%, а з другога — насоўваецца пенсіённая рэформа, якую "думцы" пакуль нават не абмяркоўвалі. Ды і тэрміны падрыхтоўкі рэформы пакуль не вызначаны. Пра неабходнасць жа перагледзець саму пенсіённую формулу гаварылі яшчэ ў 2010 годзе. І вось у кастрычніку Пуціну нарэшце паклалі на стол Стратэгію развіцця пенсіённай сістэмы да 2030 года. Той у сваю чаргу запатрабаваў ад міністраў да 15 снежня ўнесці ў Дзяржаўную Думу тэксты законапраектаў. І ўвогуле параіў сваім чыноўнікам не спяшацца з "важнейшым для народа" законапраектам: маўляў, трэба сем разоў падумаць перад тым, як адзін раз адрэзаць. А прэм'ер-міністр Дз.Мядзведзеў і ўвогуле зрабіў ураду контрпрапанову, заявіўшы, што гэты законапраект можна адкласці да красавіка 2013 года. Карацей, сышліся на тым, што работа "думцам" прадставіцца недзе ў сярэдзіне года. З таго вынікае хіба адно: у пенсіённых планах расійскага ўрада па-ранейшаму нічога пэўнага, а перадпенсіянеры ў роздуме: у якім узросце кожны з іх выйдзе на пенсію і якой будзе сума дзяржаўных выплат? На думку многіх незалежных назіральнікаў, увесь гэты бюракратычны "заварот" вакол пенсій — толькі частка куды больш важнай праблемы. І тая праблема — у недасканаласці, архаічнасці фінансавай сістэмы. За столькі гадоў рэформ (ці псеўдарэформ) так і не было створана пасапраўднаму рэальных магчымасцяў для зберажэнняў і накапленняў. Верагодна, для цяперашніх расійскіх заканатворцаў і кіроўцаў пенсіённае пытанне — ніякая не праблема. Пакуль высокая цана на газ і нафту, можна пакінуць усё як ёсць, уключаючы салідарную пенсіённую сістэму, якая цалкам залежыць ад магчымасцяў Пенсіённага фонду і Дзяржаўнага бюджэту. І тут нічога дзіўнага ў тым, што ўрад РФ падвышае пенсіі ўсім пенсіянерам, незалежна ад стажу і статусу. Вось і сярэдні памер пенсій ужо "абскакаў" прыбалтыйскія сярэднія пенсіі. Але ці варта ўзрушацца, асабліва на фоне дэмаграфічнай праблемы, якая на вачах робіцца мінай запаволенага дзеяння?..

### Беларускі варыянт

У беларускім пенсіённым балоце — і конь не валяўся... Калі што і абмяркоўваецца, то хіба адно — калі і на колькі гадоў павысяць пенсіённы ўзрост. Пра нейкія паі, недзяржаўныя фонды, полісы накапляльнага страхавання — гэта ўсё капіталістычныя "штучкі-дручкі", гэта не для нас. Затое з высокіх трыбун ледзь не плаксівыя заклінанні: дзяржава стараецца, робіць усё магчымае і ўсё такое, але ж Беларусь бедная, бо няма ў нас ні таго, ні гэтага — ні нафты, ні газу (пра велізарныя калійныя радовішчы не ўзгадваецца, як і пра нашы лясы, азёры, балоты)... А яшчэ, як бы спакваля, улада і апраўдваецца: бедных стала на 30% болей, таму нічога не застаецца, як падкарэкціраваць бюджэт пражытачнага мінімуму... І тут жа запэўнівае: маўляў, не варта хваляваецца за пенсіі. Калі і будуць нейкія змены ў пенсіённым заканадаўстве, то нічога кепскага не прагназуецца: пенсіённая ж сістэма — дзяржаўная...

Правільна — цалкам дзяржаўная, таму і не зацікаўлена ў розных там недзяржаўных пенсіённых фондах. Лепш ураўнілаўка, і каб лейцы толькі ў руках кіроўцы — так лацвей трымаць народ у залежнасці. Для нас усё яшчэ найлепшая — пенсіённая сістэма "жалезнага" Бісмарка...

**Георгій ЧЫГІР.**

#### Сярэднія пенсіі ў краінах свету (на пачатак 2012 г.)

| Краіны свету | Сярэднямесячная пенсія, дол. ЗША |
|---|---|
| Аўстрыя | 2900 |
| Фінляндыя | 2800 |
| Данія | 2600 |
| Германія | 2500 |
| Ізраіль | 2500 |
| Іспанія | 2200 |
| ЗША | 2000 |
| Польшча | 1050 |
| Эстонія | 750 |
| Латвія | 550 |
| Расійская Федэрацыя | 330 |
| Казахстан | 260 |
| Азербайджан | 200 |
| Украіна | 150 |
| **Беларусь** | **130** |
| Кыргызстан | 80 |
| Таджыкістан | 40 |

КАНФЛІКТ

# Царква ў аблозе

## Вернікі абшчыны "Новае жыццё" пачалі кругласутачную малітву

Такое рашэнне прыняў савет царквы. 24 гадзіны ў суткі вернікі будуць знаходзіцца ў будынку царквы і прасіць Бога аб тым, каб ён дазволіў уладзе адумацца і абараніў іх (прыхажан). Бо ў чарговы раз улады не знайшлі больш актуальнай праблемы, як высяленне хрысціян веры евангельскай з будынка, які яны ў свой час законна атрымалі і адрамантавалі сваімі рукамі.

*"Гэта пакуль усё, што мы выпрацавалі на пасяджэнні савета"*, — адзначыў юрыст Сяргей Луканін. Па яго словах, вернікі нават не разглядаюць варыянт добраахвотнага высялення з будынка, якое больш за 20 гадоў таму яны пабудавалі сваімі рукамі на месцы напаўразваленага кароўніка.

Абшчына хрысціян поўнага Евангелля "Царква Новае жыццё" атрымала прадпісанне Гаспадарчага суда Мінска, згодна з якім да 11 гадзін раніцы 5 снежня павінна вызваліць будынак па вуліцы Кавалёва, 72. У адваротным выпадку судовыя выканаўцы пагражаюць вернікам прымусовым высяленнем.

Дарэчы, каля сямі гадоў Мінгарвыканкам спрабуе выселіць царкву "Новае жыццё". Яшчэ ў 2005 годзе гарадскія ўлады пазбавілі рэлігійную абшчыну права карыстання зямельным участкам, хаця ён быў выдзелены ў бестэрміновае карыстанне. У кастрычніку 2006 года вернікі нават вымушаны былі праводзіць пост-галадоўку, якая доўжылася каля месяца. Тады галадоўшчыкі змянялі адзін аднаго, таксама пастаянна знаходзячыся ў будынку царквы. Такі малітоўны пратэст спыніўся толькі пасля таго, як улады адступілі. У абарону "Новага жыцця" тады выступілі прадстаўнікі дэмакратычных сіл, краіны ЕС, замежныя палітыкі, святары, рэлігійныя аб'яднанні.

Тым не менш у 2009 годзе ўлады пазбавілі суполку права ўласнасці на будынак царквы, а ў ліпені 2010-га Гаспадарчы суд Мінска наклаў на суполку санкцыі ў памеры 258.000.000 рублёў за "забруджванне навакольнага асяроддзя". Вернікі палічылі дзеянні ўлад незаконнымі і вырашылі не выплачваць гэтую суму. Апошнія паўтара года ўлады не рабілі ніякіх дзеянняў у дачыненні да царквы. Што здарылася зараз, чаму раптам зноў узнікла сітуацыя абвастрэння — не зразумела.

Дарэчы, за 20 гадоў існавання "Новае жыццё" атрымала больш за тры дзясяткі судовых пазоваў, пастар царквы Уладзімір Ганчарэнка і юрыст Сяргей Луканін неаднаразова падвяргаліся адміністрацыйнаму пераследу. Гэта з аднаго боку. А з другога боку, "Новае жыццё" займае актыўную пазіцыю па самых надзённых праблемах беларускай рэчаіснасці, у тым ліку выступае ў абарону палітвязняў.

**Алена НОВІКАВА.**

СЛЫШАЛИ?

## Нацбанк начал платить выдающимся студентам

*Студенты-отличники, проявляющие интерес к банковской сфере, теперь могут получить стипендию от главного банка страны. Первые стипендиаты уже отобраны. В течение текущего семестра им будет выплачено в общей сложности 72,5 миллиона рублей.*

Об этом сообщает управление информации и общественных связей Нацбанка.

Стипендии выплачиваются 21 учащемуся из четырех вузов страны: БГУ (6 стипендиатов), БГЭУ (5 стипендиатов), БГУИР (2 стипендиата) и Полесского государственного университета (8 стипендиатов). Студенты других белорусских вузов на материальную поддержку от Нацбанка претендовать не могут.

Размер стипендии составляет 5 базовых величин, или 500 тысяч рублей. Для детей-сирот и детей, оставшихся без попечения родителей, предусмотрена большая сумма — 7 базовых величин. Кроме того, выдающимся студентам предоставляется возможность проходить практику в Нацбанке (на первоочередной основе) и даже получить там работу.

Претендовать на стипендию могут только студенты 3—5-х курсов дневной формы обучения, чья успеваемость не падает ниже 9—10 баллов. Еще одно обязательное условие — успешные научные исследования по актуальным вопросам банковской деятельности.

АКТУАЛЬНА

## Як зарабіць грошы на жыллё?

*А.Лукашэнка заявіў, што дзяржава дапаможа вырашыць жыллёвае пытанне толькі асобным катэгорыям насельніцтва, а астатнія павінны пра гэта паклапаціцца самі.*

*"Спадзявацца, што дзяржава ўсім пабудуе жыллё, кватэры, дамы, як і спадзявацца на тое, што дзяржава дасць усім ільготны крэдыт пад 5%, — гэтыя надзеі трэба адкінуць"*, — сказаў кіраўнік дзяржавы.

*"Дзяржава дапаможа тым, хто не можа гэтага зрабіць, а астатнія павінны зарабляць грошы і іх укладваць, у тым ліку ў будаўніцтва"*, — падкрэсліў ён.

Паводле яго слоў, дзяржава, па аб'ектыўных прычынах, не можа ў ранейшых аб'ёмах фінансаваць жыллёвае будаўніцтва. У сувязі з гэтым, адзначыў А.Лукашэнка, *"неабходна шукаць альтэрнатыўныя крыніцы, больш шырока прыцягваць прыватны бізнес"*.

МІЖ ІНШЫМ

## Кватэра не абавязкова павінна быць новай

*У апошнія месяцы назіраецца попыт не толькі на новабудоўлі, але і на квадратныя метры на другасным рынку жылой нерухомасці.*

Так, у студзені—кастрычніку было заключана больш за 8,3 тысячы здзелак куплі-продажу такіх кватэр, што на 18,5% больш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. Пра гэта паведамляе belta.by са спасылкай на аддзел кансалтынгу і аналітыкі групы кампаній "Твая сталіца".

Прычым за апошнія тры месяцы часцей за ўсё здзяйснялі здзелкі куплі-продажу з кватэрамі ў дамах 2000—2012 гадоў пабудовы. Выбар пакупнікоў на карысць такіх кватэр абумоўлены ў першую чаргу павышэннем патрабаванняў да якасці кватэр. *"Усё больш здзелак ажыццяўляецца з мэтай паляпшэння жыллёвых умоў, а не ўкладання свабодных сродкаў, таму да выбару кватэры людзі падыходзяць больш старанна"*, — распавядаюць спецыялісты.

Што тычыцца коштаў, то цэннік на квадратны метр у новабудоўлях і кватэрах на другасных рынку нерухомасці амаль не адрозніваецца. Сярэдні кошт квадратнага метра — 1220 дол., аднапакаёвыя кватэрты восенню прадаюцца па 1290 дол. за квадратны метр, двухпакаёвыя — 1240 дол., а трохпакаёвыя — 1120 долараў.

**Вера ВІР.**

БЕЛАРУСЬ: МОДЕРНИЗАЦИЯ, ВЗГЛЯД В БУДУЩЕЕ

# Гражданское общество Беларуси дискутирует о разумных границах своей политизации

*Вызовы, с которыми сталкивается гражданское общество, ставят его перед непростым выбором. Становиться на путь политизации или пытаться и дальше без лишнего шума заниматься своим делом, несмотря на давление со стороны государства? Есть ли золотая середина в особых белорусских условиях?*

Этот вопрос обсуждался на конференции Национальной платформы Форума гражданского общества "Восточного партнерства", которая состоялась 16 ноября в Минске. По итогам конференции была принята концепция развития белорусской Национальной платформы.

В принятом варианте концепции предусматривается значительное расширение повестки дня и полномочий Национальной платформы, усиление ее "субъектности". По мнению некоторых экспертов, ее работе придается оттенок политической деятельности.

Авторами и сторонниками такой трактовки функций гражданского общества стали **Влад Величко** (глава международного консорциума "ЕвроБеларусь") и эксперт Агентства гуманитарных технологий **Татьяна Водолажская**.

Второй вариант, поддержанный меньшинством участников, предлагал не уходить от установленного формата деятельности организаций гражданского общества и не становиться на путь их политизации. Проводниками этой идеи были аналитик Белорусского института стратегических исследований (BISS, Вильнюс) **Денис Мельянцов** и глава "Офиса за демократическую Беларусь" (Брюссель) **Ольга Стужинская**.

### Большая битва или малые дела?

**Влад Величко** уверен, что "Нацплатформа должна быть более гибкой и не ограничивать себя исключительно рамками повестки дня "Восточного партнерства".

Собеседник БелаПАН считает, что надо развивать предложенные Евросоюзом платформы "Восточного партнерства", "Европейского диалога о модернизации с Беларусью", а не ограничивать себя их форматом.

Кроме того, принятый вариант концепции наделяет Национальную платформу более широкими функциями в вопросе выражения консолидированного мнения всего гражданского общества.

*"Безусловно, плюрализм мнений — очень важный демократический механизм, однако в ряде случаев требуется консолидированность мнений, позиций, оценок, намерений"*, — добавляет Влад Величко.

**Денис Мельянцов**, напротив, видит в новой концепции желание поставить гражданское общество на политические рельсы: *"Национальная платформа теперь будет решать политические задачи, такие как борьба с властью"*.

Вместе с тем, подчеркивает политолог, политическая деятельность не является целью многих организаций, входящих в эту платформу. *"Если кто-то хочет заниматься политической борьбой, то есть множество политических партий, и можно реализовывать свои амбиции там"*, — считает Денис Мельянцов.

Так, среди проголосовавших против, ОО "Белорусская ассоциация журналистов", "Белорусский Хельсинкский комитет", незарегистрированный правозащитный центр "Весна", "Офис за демократическую Беларусь", Белорусский институт стратегических исследований и несколько других организаций.

### Политизация против профессионализма и эффективности

Между тем для некоторых сфер гражданского общества излишняя политизация опасна даже не столько репрессиями, сколько разрушением фундаментальных принципов деятельности. Независимость здесь является не просто профессиональным долгом, но и залогом хоть сколько-нибудь эффективной деятельности.

Одна из областей, в которых эффект "баррикадности" снижает качество работы, способен подорвать общественный авторитет и доверие, — это журналистика.

Когда журналист начинает следовать "линии партии", выполнять политические установки, в первую очередь бороться, а не информировать или анализировать, он ставит под удар профессионализм. Получается пропаганда, которая сродни государственной и имеет мало общего с настоящей журналистикой.

А сильно ли вы будете верить политически ангажированным социологам? Они должны быть нейтральными в своих исследованиях и выводах.

Та же история с правозащитниками. Они призваны заниматься защитой любого незаконно осужденного или подвергнутого репрессиям человека. Они — как врачи, которые не могут отказать в помощи из-за того, что больной — коммунист или либерал, националист или анархист. Политизация в такой чувствительной сфере просто недопустима.

Поэтому отказ БАЖ, БХК и "Весны" подписать новую концепцию объяснить несложно. Невозможно работать на поприще независимой журналистики или правовой помощи, когда тебя вынуждают идти в русле "консолидированного мнения" некой надстроечной структуры.

А некоторые организации — профсоюзы, аналитики, экологи — для достижения своих целей вынуждены порой сотрудничать с государством и его органами. *"Политизация будет ставить под удар их уставные цели: невозможно решать свои повседневные задачи, участвуя одновременно в политической борьбе"*, — считает **Денис Мельянцов.**

### Белорусская специфика: пройти по лезвию

Влад Величко же отвергает обвинения в адрес авторов документа: *"Достаточно почитать текст концепции, чтобы убедиться, что он вообще не затрагивает темы политических целей, а концентрирует внимание на расширении повестки дня и большей субъектности Нацплатформы"*.

Но тогда как понимать слова другого сторонника принятой концепции — философа **Владимира Мацкевича**: *"Судьбоносная миссия Нацплатформы — давление на нашу власть"?*

Если именно так будет реализовываться новый план действий по консолидации гражданского общества, то опасения противников концепции вполне разумны.

Неправительственные организации, вытесненные на политическое поле, мало того что не смогут полноценно заниматься своей деятельностью, но и рискуют сузить шансы на широкое общественное признание.

Власть неспроста прикладывает серьезные усилия для борьбы с негосударственными объединениями. Суть и миссия гражданского общества состоит в том, что свободные граждане без государства, внешнего контроля и политики вообще, объединившись, сами решают свои проблемы.

Найти рецепт выживания гражданскому обществу сейчас очень непросто. Да, в специфической белорусской ситуации за цивилизованные рамочные условия для третьего сектора его же представителям надо и бороться. Но важно не перейти черту. Оказавшись на одной политической обочине с маргинальными оппозиционными партиями, общественные организации не смогут выполнить свою главную функцию — показать народу возможности самоорганизации.

**Артем ШРАЙБМАН, аналитик.**

ПАРАЛЛЕЛИ

## Беларусь опять в лидерах по ценам

*Наша страна занимает лидирующие позиции по темпам роста цен среди отдельных стран ЕС и СНГ. Такие данные содержатся в опубликованном исследовании Национального статистического комитета.*




**По данным Белстата, с начала года по октябрь потребительские цены в Беларуси выросли на 18,1%, что позволило нашей стране занять и прочно удерживать лидирующую позицию в рейтинге стран по темпам роста инфляции.**

